# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 40 (866) ГОД XVII БЕЛАСТОК 1 КАСТРЫЧНІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.



У зале VII з'езду БГКТ.

Фота — П. Савіцкі

Франтон стыльнай камяніцы на Варшаўскай 11 у Беластоку 24 верасня 1972 года вабіў вочы беластачан цеплынёй пурпурных сцягоў і сустракаў прыбываючых з розных мясцін Беласточчыны і ўсяе нашае краіны дэлегатаў і запрошаных гасцей на VII з'езд БГКТ сардэчным словам «Вітаем!»

Напярэдадні з'езду I сакратар ВК ПАРП у Беластоку Здзіслаў Куроўскі, старшыня Прэзідыума ВРН Зыгмунт




Прэзідыум VII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Фота — П. Савіцкі

Спрыха і сакратар ВК ПАРП Уладзіслаў Юшкевіч прынялі прадстаўнікоў Прэзідыума ГП БГКТ. Сустрэча прайшла ў сардэчнай атмасферы.

Калі канферэнцыйная зала ГП БГКТ запоўнілася дэлегатамі і госцьмі, настрой сардэчнасці, павагі, удумлівасці і аптымізму запанаваў з першых хвілін працы з'езду.

Адкрыў з'езд дагэтуляшні старшыня ГП БГКТ М. Хмялеўскі. Па яго прапанове ўдзельнікі з'езду паўстаннем з месц і хвілінай цішы ўшанавалі памяць памёршых В. Літвінчука, І. Кіндзюка, Я. Кастыцэвіча і іншых заслужаных для нашага таварыства людзей.

З'езд горача прывітаў прыбыўшых на яго запрошаных гасцей: сакратара ВК ПАРП У. Юшкевіча і кіраўнікоў аддзелаў ВК ПАРП У. Канстанчука і В. Авера; намесніка старшыні ПВРН Р. Лазаровіча; старшыню ВК ФАН С. Кудлу; прадстаўнікоў Міністэрства унутраных спраў З. Кнызяка, С. Ермака і Т. Цяплінскага, Міністэрства асветы і выхавання — В. Ахманскую і С. Янкоўскага; сакратара ВК ЗСЛ С. Зезюлевіча, старшыню ВК прафсаюзаў Ю. Трусевіча; сакратара ВП ТППР З. Трыбульскую; старшыню ВК ЗМВ Е. Гурскага; прадстаўнікоў аддзела унутраных спраў ПВРН І. Федаровіча і М. Куца; прадстаўніка куратарыі ВША В. Філіпкоўскага; загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Э. Смулкову; прадстаўніка УГКТ А. Серадніцкага і іншых гасцей, а таксама прадстаўнікоў радыё і друку.

Старшынёю з'езду дэлегаты выбралі А. Баршчэўскага і пасля выбрання ганаровага прэзідыума заслухалі прывітальныя тэлеграмы, якія паступілі ў адрас з'езду ад віцэ-міністра унутраных спраў, ГП ЛГКТ, ГП ЯГКТ, шматлікіх гурткоў з Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў. Дэлегацыі вучняў з агульнаадукацыйных ліцэяў з Бельска, Гайнаўкі і Міхалова разам з букетамі чырвоных гваздзікаў склалі з'езду прывітанні ад вучнёўскай моладзі і педагагічных саветаў сваіх школаў.

Прынятыя парадак дня, правілы працы і выбраныя з'ездам камісіі мандатная, прапаноў, выбарчая і статутовая гарантавалі спраўны ход працы найвышэйшага форума нашай арганізацыі.

Са справаздачным дакладам выступіў М. Хмялеўскі (пераказ даклада мы змясцілі ў папярэднім нумары «Нівы»). У справаздачы, якую зачытала намеснік старшыні Рэвізійнай камісіі БГКТ Л. Бялецкая, было выказана адабрэнне працы за мінулыя тры гады і дадзен абсалютарыум уступаючаму ГП БГКТ.

Высокую ацэнку дзейнасці нашай арганізацыі выказаў у сваёй прамове сакратар ВК ПАРП У. Юшкевіч, які выступіў на з'ездзе ад імя ВК ПАРП, ВК ЗСЛ і ПВРН.

Прывітанні нашаму таварыству перадалі: ад Міністэрства унутраных спраў З. Кнызяк, ад Міністэрства асветы і выхавання В. Ахманская, ад навуковых працаўнікоў і студэнтаў беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Э. Смулкова, ад УГКТ А. Серадніцкі.

У разважлівай і канструктыўнай дыскусіі, якая закранула найбольш істотныя праблемы дзейнасці нашай арганізацыі, прынялі ўдзел: А. Іванюк, У. Паўлоўскі, Н. Цыванюк, В. Сакоўскі, М. Гайдук, В. Андрэюк, І. Кірызюк, С. Янкоўскі, Я. Мацкевіч, Я. Кісель, В. Швед, В. Дзун, Р. Семянюк, Л. Радышук. (Матэрыялы з дыскусіі будуць апублікаваны ў наступных нумарах «Нівы»).

У ходзе працы з'езду зрабілі справаздачы старшыні паасобных камісій. Канстатавалі яны правамоцнасць VII з'езду БГКТ (прысутнічалі на ім 93 дэлегаты з 120 выбраных), унеслі змены ў статут нашай арганізацыі, зрабілі прапановы наконт далейшай яе дзейнасці і запранавалі склад новага ГП БГКТ у ліку 41 асобы і Рэвізійнай камісіі БГКТ — 5 асоб. Усе апрацаваныя камісіямі дакументы з'езд прыняў аднагалосна.

У часе перапынку на першых сваіх пасяджэннях Галоўнае праўленне выбрала Прэзідыум ГП БГКТ, а Рэвізійная камісія БГКТ — свайго старшыню.

Старшыня ГП БГКТ М. Самоцік у сваёй прамове звярнуўся з гарачым заклікам да ўсіх членаў таварыства прыкласці ўсе намаганні, каб паспяхова выканаць заданні, пастаўленыя перад таварыствам партыйнымі і ўрадавымі органамі, VII з'ездам БГКТ.

Творчы і працавіты дзень з'езду закончылі выступленні літаратурнай эстрады з бельскага беларускага ліцэя і багатая праграма Бельскага беларускага хору.

*Ігнат Снарскі*




ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

*Аверчук Сяргей*
*Амбражэй Анна*
*Андрэюк Валянціна*
*Баршчэўскі Аляксандр*
*Бусловіч Юрый*
*Валкавыцкі Юрый*
*Вішанка Янка*
*Гайдук Мікалай*
*Гайдук Уладзімір*
*Даніловіч Надзея*
*Данілюк Мікалай*
*Зенюк Янка*
*Іванюк Аляксандр*
*Іванюк Яўгеній*
*Карпюк Аляксей*
*Кісель Янка*
*Красько Анна*
*Лукашук Сцяпан*
*Мадзалеўскі Аляксандр*
*Мартыновіч Анатоль*
*Навіцкі Юзэф*
*Паўлоўскі Уладзімір*
*Радышук Лідзія*
*Раеўскі Уладзімір*
*Рафаловіч Аляксандр*
*Рышчук Сцяпан*
*Самоцік Мікалай*
*Склубоўскі Вінцук*
*Суліма Мікалай*
*Суліма Янка*
*Сцепанюк Уладзімір*
*Тапалянская Гелена*
*Трафімюк Сцяпан*
*Туронак Юрый*
*Філіпюк Валянціна*
*Філіпюк Сяргей*
*Хіліманюк Валянціна*
*Цыванюк Ніна*
*Чыжык Раіса*
*Шыманюк Сымон*
*Юзвюк Уладзімір*

ПРЭЗІДЫУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

Самоцік Мікалай — старшыня.
Валкавыцкі Юрый — намеснік.
Зенюк Янка — сакратар.
Баршчэўскі Аляксандр — член.
Іванюк Аляксандр — член.
Рафаловіч Аляксандр — член.
Трафімюк Сцяпан — член.
Цыванюк Ніна — член.
Шыманюк Сымон — член.

РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Хмялеўскі Міхась — старшыня.
Антыпюк Васіль — член.
Баранчук Уладзімір — член.
Бароўскі Сяргей — член.
Навіцкі Уладзімір — член.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 165

* * *

Я сёння ключ знайшоў, сябры,
да поля,
адкрыем дзверы
промням,
ветрам,
маям,
і той блакітнай чыстай столі,
якую небам называюць.
І аддамося дыктатуры мараў,
без межаў,
без граніц
даволі
піць будзем толькі
з дрэваў — чарак
за вечнае здароўе поля.
Без нівы нам, сябры,
не быць здаровым,
дык адкрывайма дзверы у палетак.
Спявайма гімны дабраце каровы
і сіняму штандару лета.

*Алесь Барскі*



## ПРАГА

Вочы кветак — калёраў адценні.
А дрэвы — сябры нязменныя,
Заўсёды з намі.

У блакіце плывуць ключы жураўлёў,
Цяжка развітацца з роднай зямлёй.
Песня — рыданне.

Усяму, відаць, ёсць свой пачатак
і канец,
Ёсць нараджэнне і смерць —
Ісціна шматзначнасці.

А мне хочацца затрымаць той міг
Праміпання і бліскавіц
І, як дзіця, смяяцца.

*Уладзімір Гайдук*

* * *

Усе мы
Вышлі па-за брамы раю,
І трэзвым холадам павеяла,
І расступілася пазнанне —
Прэм наперад,
Назад не аглядаючыся...
Дый хто цяпер
З далечыні такой
У рай загляне!

І толькі ў снах
Дзіцячых ці старэчых
Праз гушчары штодзённых
клопатаў
Святло
Ірдзее —
І так амаль ужо адвечна —
Ці ззаду нас,
Ці спераду агонь мільгае?
Няведама...
Да яго мы цягнемся з надзеяй,
Упэўнены,
Што вяртаемся да раю.

**Я. Чыквін**

## Рыжочэрвоны

**ёго фацэтка міэла**
**волосы рыжочэрвоны**
**як пуод каштаном**
**дахуовка на домові Юрэка**
**а той Юрэк**
**о вуон знае**
**што годуе на папэрові малпы**
**Юрэк знае**
**што іх нэ обмануе**
**шкода**
**што крэдка**
**корміт оріэхамі**
**вевюркі**

**малпы обманують Юрэка**
**— воны моўчат**
**Юрэк марнуе час**

**Зося Сачко**




Мінула
вялікае лета
восень
ідзе залатая
дрэвы
ящчэ не пустыя
не адзінокія
грушы і яблыні
ў садзе
лісточкі
толькі жаўцець
пачалі далікатна
моцна
трымаюцца жыцця
ўсімі сіламі
сціскаюць галінкі
а калі
іх забракне
на зямлю
сумна апусцяцца
шкадуючы
што так коратка
убіралі дрэвы
шкадуючы
што так коратка
лета
і ім
прыйшлося ўміраць
на зямлі-матцы
сырой
ад дажджоў частых
пакрытай
ранкам і вечарам
расою серабрыстай.

**Ірэна Баравік**

* * *

**Першы верасня не прывітаў мяне ўсмешкай сонца, пагодным небам. Дзень гэты быў пануры і дажджлівы. Вецер калыхаў творамі прыроды, ганяў чорныя хмары па небе. Надвор'е было супрацьпастаўленнем пагоды ў будынку нашай школы. Усюды ўсмешкі, жэсты прывітання, знаёмыя постаці настаўнікаў, даклад, прачытаны дырэктарам. З гэтага даклада найбольш я запомніла ўспамін пра 1 верасня 1939 года. І тут я глянула ў вакно. Мая думка злучыла пануруую пагоду з успамінам пра вайну. У сэрцы маім застаўся смутак, і нішто не магло развесяліць маёй душы... Пагода сеяла смутак па салдатах з Вестэрпляттэ... А па чым мая душа?**

**Ніна Гаўрылюк**



## НАВАЛЬНІЦА

*Грозная хмара*
*выглянула*
*з-за гарызонта*
*яна чорная*
*распаўзлася*
*па небе*
*зачарніўшы*
*свет*
*аддзяляючы*
*сонца*
*неба ад*
*зямлі*
*ўсё на момант*
*прыціхла*
*і зямля*
*затрымалася*
*здаецца*
*зрабілі фота*
*прыродзе*
*і яна*
*нерухома*
*стаіць*
*праз хвіліну*
*як сумна*
*як страшна*
*бачыць*
*вачамі*
*яснымі*
*цёмную*
*навальніцу.*

*Але яна*
*зусім не страшная*
*яна вясёлая*
*свеціцца*
*маланкай*
*агнямі*
*па вадзе*
*скача доўгі*
*ад неба*
*дождж.*



*Стаю і любуюся*
*гэткім надвор'ем*
*і сумна*
*і весела мне*
*а потым*
*сядаю*
*папера*
*аловак*
*і сэрца не б'е*
*і грому не чую*
*не чую нічога*
*не боязна мне*
*бо словы — маланкі*
*кладу на паперу.*

*І думаю*
*вечар*
*навокал*
*так цёмна*
*ды не*
*памаленьку*
*уніз*
*разлазяцца*
*тыя*
*з неба*
*цяжкія*
*звяры*
*знікаюць*
*за небасхілам*
*сонца*
*вясёлае*
*распусціла*
*косы*
*сваё*
*па ўсёй*
*зямлі.*

*Як добра*
*жыць*
*у буру.*

Мар'я Семянюк

## СЛЕД

**Над морам**
**на пяску нарэзы —**
**ялінкаваты чайкі след:**
**Строгі радок,**
**як антытэза**
**у бесхрыбетны трыялет.**
**З дзюнаў**
**навеяла шыпшыны,**
**пранізывае халадок.**
**А я хачу узор птушыны**
**жыўцом паставіць**
**ў свой радок.**

**ЮРКА ЗУБРЫЦКІ**

## УСПАМІН

Хворая маці. Калі чуў ад каго гэтыя словы, бачыў туманны дзень, такі шэры і туманны. Дзень без сэнсу, напоўнены сумам і болем. Або пусты крык рэхам разыходзіцца! І калі чалавек, які, расказваючы яму пра хваробу маці, плакаў — ён не знаходзіў месца.

Маці хворая! Яе завезлі ў шпіталь, укладавілі. Дазволілі наведваць яе ад адзінаццатай да першай гадзіны дня штонядзелі. Да яе смерці ў зялёную Сёмуху.

**Сакрат Яновіч**

